**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.38, 18.03, 11.25;
Віцебск — 6.29, 17.52, 11.23;
Магілёў — 6.27, 17.52, 11.25;
Гомель — 6.22, 17.52, 11.51;
Гродна — 6.50, 18.20, 11.30;
Брэст — 6.52, 18.20, 11.28.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 12 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ:**
Парфірыя, Севасцьяна;
Цыпрыяна, Бажыслава.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

10 САКАВІКА 1992 г. аўторак, № 50 (21828)

# РОЗГАЛАС

## Пастанова
### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
### АБ ПЫТАННЯХ, ЗВЯЗАНЫХ З ПРАВЯДЗЕННЕМ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама інфармацыю кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі Мірачыцкага Ф. У., Шэпеля У. М., Сурмача В. В., Чыгіра М. М., намесніка старшыні праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Сідарава У. А., намеснікаў старшынь аблвыканкомаў Гіруця М. І., Слесара У. М., Андрэйчанкі У. П., Яскевіча Г. С., службовых асоб аблвыканкомаў Русака А. В., Сухоцкага П. У. аб стане падрыхтоўкі да правядзення веснавых палявых работ.

2. Савету Міністраў:

распрацаваць і рэалізаваць неабходныя меры па неадкладнаму выпраўленню крытычнага эканамічнага становішча аграпрамысловага комплексу, маючы на ўвазе ў першачарговым парадку вырашыць пытанні забеспячэння эквівалентнага тавараабмену паміж сельскай гаспадаркай і прамысловасцю, як таго патрабуе Закон «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці вёскі і аграпрамысловага комплексу»;

унесці на разгляд 9-й сесіі Вярхоўнага Савета неабходныя прапановы аб устанаўленні льготнага падаткаабкладання і крэдытавання аграпрамысловага комплексу, а таксама аб расшырэнні паўнамоцтваў органаў выканаўчай улады ў забеспячэнні аператыўнасці кіравання эканамічнай і крэдытна-фінансавай палітыкай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

3 сакавіка 1992 г. г. Мінск.

## СЫРАВІНУ АТРЫМЛІВАЕМ, ПРАДУКЦЫЮ АДГРУЖАЕМ. А ГРОШАЙ — НЯМА

Эканамічнае становішча, якое складваецца сёння ў рэспубліках былога Саюза, як гавораць разумныя людзі, патрабуе нейкага тэрміновага вырашэння. Пакуль заклапочаныя спажыўцы ламаюць галовы над пытаннем, дзе, за што і як мага дзешавей нешта набыць, не менш азадачаныя вытворцы матэрыяльных даброт думаюць, як дамовіцца аб сыравіне, па якой цане рэалізаваць прадукцыю, каб не застацца ў пройгрышы. І гэтая чахарда, падобна, з кожным днём паціху набірае моцы. Аднак неяк жыць, трымацца на плаву трэба.

— Абстаноўка ў нас—як і на іншых прадпрыемствах горада, — гаворыць намеснік дырэктара па эканоміцы завода медпрэпаратаў Раман Куніцкі. — Няўмольна расце запазычанасць спажыўцоў нашай прадукцыі. Прычыны неплацежаздольнасці: цэны падскочылі ў 5 разоў, а аптэкі, якія рэалізуюць нашы прэпараты, прадаюць лекі толькі ў два разы даражэй. Трэба адзначыць, што з сыравінай, якую нам пастаўляюць з Расіі, Прыбалтыкі, Украіны, Арменіі, Азербайджана, сёння перабояў няма. Расійскія пастаўшчыкі, напрыклад, усе дагаворы выконваюць, як кажуць, на ўсе сто. Так што пакуль у нас атрымліваецца так: планы па аб'ёму вытворчасці выконваем, а грошай атрымаць не можам.

— Мы нават сёння знаходзім магчымасці для выпуску новых прэпаратаў, — гаворыць старшыня прафкома завода Святлана Клачок. — З грашамі цяжкасці ёсць, канешне. Але заработную плату рабочыя атрымліваюць своечасова. Скарачэнняў у нас пакуль таксама няма.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## «Пакідаем за сабой права...»

**Ультыматыўным тонам вырашылі размаўляць з уладамі кіраўнікі 11 калгасаў і саўгасаў Кіраўскага раёна на чале са славутым старшынёй калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага Васілём Старавойтавым. У адрас Магілёўскага аблвыканкома яны накіравалі петыцыю, у якой утрымліваецца пагроза спыніць продаж сельгаспрадукцыі дзяржаве, калі не будуць выкананы патрабаванні сходаў прадстаўнікоў у гаспадарках раёна. Так і сказана: «Пакідаем за сабой права...»**

**Сутнасць патрабаванняў ва ўстанаўленні парытэту ў абмене прадукцыі паміж вёскай і горадам, патрабуецца таксама права набыцця калектыўнымі гаспадаркамі дзяржаўнай уласнасці перапрацоўчых прадпрыемстваў. У прыватнасці, калгасы і саўгасы хочуць, каб яшчэ да прыняцця Закона аб прыватызацыі ім дазволілі купіць асноўныя вытворчыя сродкі Кіраўскага маслазавода.**

**Але, здаецца, ультыматумы зараз нічога не мяняюць.**

**Аляксандр САНЧУК.**

## Са старонак падручніка — у рэчаіснасць

**БАБРУЙСК (В. Зіноўскі). З падручнікаў палітэканоміі і эканомікі мы ўжо ведаем такое слова, як лакаўт, што азначае масавае звальненне рабочых. На жаль, і гэта паняцце, якое мы раней прыпісвалі выключна Захаду, перайшло да нас разам з рынкам. Так, на Бабруйскім заводзе буйнагабарытных шын асацыяцыі «Белшына» ліквідуецца чацвёртая рабочая змена, а ў выніку ўсіх гэтых рэарганізацый намячаецца звольніць да 500 чалавек. Чым не лакаўт?**

## ЛЕТНІ ЧАС РАСІІ

**«Летні» час уводзіцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі на перыяд з 29 сакавіка па 27 верасня 1992 года, паведамляе Дзяржстандарт Расіі.**

**У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў на ўсёй тэрыторыі Расійскай Федэрацыі ў 2 гадзіны 29 сакавіка пераводзяцца на адну гадзіну наперад.**





**Аб цяжкім становішчы, у якім апынулася медыцынскае абслугоўванне, ведае, бадай, кожны. Татальны дэфіцыт ад сучаснай апаратуры і лекаў да бялізны і пасуды плюс нізкая заработная плата ўрачоў і абслуговага персаналу — вось асноўныя штрыхі да партрэта сённяшняй айчыннай аховы здароўя.**

**У гэтым плане хірургічнае аддзяленне 3-й гарадской бальніцы Мінска не з'яўляецца выключэннем. Толькі высокі прафесіяналізм, добрасумленнасць і міласэрнасць працуючых тут людзей дазваляюць ім і ў гэтых умовах сумленна выконваць свой абавязак. Немалая заслуга тут і загадчыка аддзялення Мікалая Фёдаравіча Сіўца. Хірург, як гаворыцца, «ад Бога», ён яшчэ і энергічны арганізатар.**

**На думку М. Ф. Сіўца і яго калег, выйсце са становішча ў разнастайных формах аховы здароўя і, у прыватнасці, страхавой як прыярытэтнай.**

**НА ЗДЫМКАХ: загадчык хірургічнага аддзялення Мікалай СІВЕЦ; ідзе аперацыя; аперацыйная сястра Марына ПРЫГАЖАЕВА.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**



# Аб праверцы прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі па пытаннях цэнаўтварэння

**Ніжэйпрыведзены дакумент, — з разраду так званых афіцыяльных. Але гэта далёка не той афіцыёз, якім поўніліся газеты яшчэ не так даўно і ад якіх адварочваўся чытач. Думаецца, што гэты дакумент ён прачытае з асаблівай цікавасцю, справа, урэшце, датычыць яго ж кашалька...**

**Між іншым, прадбачым непазбежнае пытанне чытачоў: дзяржава вярнула ў казну па сутнасці нашы грошыкі, а непасрэдна нам ніхто ўжо не кампенсуе страт... На жаль, так. Хіба што суцешымся рэзалюцыяй першага намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларусі М. Мясніковіча ды думкай аб тым, што, можа, у сувязі з гэтай рэзалюцыяй іншыя вытворцы добра падумаюць спачатку, перш чым ставіць на сваю прадукцыю цану.**

**Першаму намесніку Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь МЯСНІКОВІЧУ Міхаілу Уладзіміравічу**

> **т. Лінгу С. С.**
> **1. Прашу ўзмацніць кантроль, расшырыўшы праверкі**
> **2. Уносьце прапановы (па прыналежнасці) аб самым жорсткім пакаранні вінаватых**
> *М. МЯСНІКОВІЧ.*
> *3.03.92 г.*

Дэпартамент эканамічнага кантролю, Галоўнае ўпраўленне цэн Дзяржэканомплана, Мінфін рэспублікі праверылі шэраг прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі па захаванню парадку фарміравання і прымянення цэн ва ўмовах іх лібералізацыі. У ходзе праверкі прааналізаваны прычыны рэзкага росту цэн, ускрыта шэраг недахопаў у цэнаўтварэнні.

Пры праверцы Мінскага мясакамбіната і Мінскага мясаперапрацоўчага завода ўстаноўлена, што пры фарміраванні свабодных адпускных цэн на гэтых прадпрыемствах неабгрунтавана ўключаны акцызны падатак на шэраг відаў мясапрадуктаў. **У выніку цана 1 кілаграма каўбасы «Сервелат» павялічана на 31 руб.** (цана 207 руб.), «Любіцельская» — на 26 руб. (189 руб.), «Святочная» — на 34 руб. (189 руб.), бужаніны — на 36 руб. (180 руб.), вэнджаніна «Кавалачкі» — на 35 руб. (165 руб.), языка ялавічнага — на 22 руб. (112 руб.).

Па выніках праверкі Дэпартамента неабгрунтавана атрыманая Мінскім мясаперапрацоўчым заводам выручка ад рэалізацыі мясапрадуктаў у **суме 130 тыс. руб. унесена ў бюджэт.** Будзе пералічаны ў бюджэт і незаконна атрыманы даход у суме больш 300 тыс. руб. з Мінскага мясакамбіната. Гэтым прадпрыемствам даручана сумесна з прадпрыемствамі гандлю пераглядзець цэны і ўстанавіць іх у адпаведнасці з дзеючым парадкам фарміравання.

Як паказаў аналіз, свабодныя рознічныя цэны на мясапрадукты застаюцца высокімі. На іх рост паўплываў шэраг фактараў. Напрыклад, цана аднаго кілаграма сыравэнджанай каўбасы «Савецкай» складала 234 рублі. Перш за ўсё высокая гандлёвая накідка, у разліку на 1 кілаграм каўбасы яна склала 48 руб. (25 працэнтаў да адпускной цаны). Адпускная цана прадпрыемства-вытворцы складае 187 руб. за адзін кілаграм, з якой 117 руб. (63 працэнты) прыпадае на кошт асноўнай сыравіны; 2,6 руб. (1,4 працэнта) — на затраты па вырабу каўбасы; 24 руб. (13 працэнтаў) — на прыбытак прадпрыемства; 43 руб. (23 працэнты) — на акцызны падатак.

Такім чынам, на прыбытак прадпрыемства, гандлёвую накідку магазіна і акцызны падатак прыпадае 115 руб. пры свабоднай рознічнай цане 234 руб. за 1 кілаграм.

Аналагічныя падыходы характэрны і пры фарміраванні рознічных цэн на іншыя віды высакаякасных мясапрадуктаў. У выніку цэны на іх застаюцца высокімі — каўбасы «Рубіцкай» — 225 руб., «Сервелат» — 207, «Маскоўскай» — 202, вэнджаніны — 162—165 руб., рулета далікатэснага — 150, шыйкі «Мінскай» — 139, языка ялавічнага — 112 рублёў.

Рэзка ўзраслі цэны на вырабы дзіцячага асартыменту.

Праверка жодзінскай прамыслова-трыкатажнай фірмы «Світанак», якая спецыялізуецца на выпуску дзіцячых трыкатажных вырабаў паказала, што цэны на іх узраслі ў 5—10 разоў. Камплект вырабаў ясельнага ўзросту (да 2-х гадоў) прадаецца па 79 руб. 80 кап. (раней цана была 10 руб. 70 кап.), паўзункі для дзяцей — па 32 руб. 25 кап. (раней 5 руб. 30 кап.), кофтачкі дзіцячыя — па 39 руб. 90 кап. (раней 5 руб. 10 кап.), камплект дзіцячы на ўзрост 2—3 гады — па 53 руб. 20 кап. (раней 5 руб. 15 кап.).

Аналіз паказаў, што такое рэзкае павышэнне цэн звязана са шматразовым павелічэннем кошту сыравіны і матэрыялаў, значным ростам заработнай платы, павелічэннем падаткаў і гандлёвай накідкі.

Узяць, напрыклад, камплект вырабаў ясельнага ўзросту. Яго цана — 79 руб. 80 кап. Да ўвядзення свабодных рознічных цэн гэты выраб для фірмы быў стратным. На кожным камплекце прадпрыемства несла страты ў 77 капеек.

Фірма «Світанак» адпускае гэты камплект гандлю па 60 рублёў (раней аптовая цана складала 7 руб.).

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў ШКОЛЕ?

**Мяркуючы па апошніх фактах учынення злачынстваў, школьнікі ў перапынку паміж урокамі па гісторыі і працы ў некаторых школах праходзяць...**

Па-першае, кароткі курс рэкету. Вось свежы прыклад. У Гродна супрацоўнікамі міліцыі па вуліцы Леніна затрыманы старшакласнік адной з гарадскіх школ, які на працягу двух тыдняў вымагаў у другога школьніка 4,5 тысячы рублёў. І небеспаспяхова, паколькі ўзяты юны рэкецір з доказамі злачынства — у момант атрымання патрабуемай сумы.

Па-другое, кароткі курс спекуляцыі. У аднаго школьніка з Ліды, дарэчы, шасцікласніка, невядомы пад пагрозай адабраў 4 тысячы рублёў і дзве курткі. Пацярпеўшы звярнуўся ў міліцыю, аднак нялішне задумацца, адкуль у хлопца ў кішэні 4 тысячы рублёў.

І па-трэцяе, вучаць беспамылкова вызначаць ў натоўпу землякоў іншаземца, разбірацца ў марках замежных аўтамабіляў і трапляць у іх, калі гаспадары ненадоўга адлучаюцца. У Мінску побач з Камароўкай быў злоўлены такі юны «лазутчык», які забраўся ў «Паланез», што належаў польскім грамадзянам. Дарэчы, дзевяцікласнік К. быў, відаць, не ў ладах з фізкультурай — далёка ўцячы з 14-ю аўдыякасетамі і чатырма джынсавымі спадніцамі пачынаючы злодзей не здолеў.

**«Агенцтва РІД».**

### АБ АДКРЫЦЦІ ДЗЕВЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Адкрыццё дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання адбудзецца 11 сакавіка 1992 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыя народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія прыбылі на дзевятую сесію, будзе праводзіцца 10 сакавіка 1992 года з 9 гадзін да 20 гадзін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

**РЭФЕРЭНДУМ:**

# «Вярхоўны Савет вычарпаў сябе і павінен мужна прызнаць гэта»

**На пытанні «Звязды» адказвае сакратар Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, каардынатар апазіцыі Сяргей НАВУМЧЫК.**

**— Адной з галоўных тэм палітычных каментарыяў рэспубліканскіх газет становіцца цяпер магчымы рэферэндум аб датэрміновых парламенцкіх выбарах. Як вы ацэньваеце тое, што піша па гэтай праблеме наш друк?**

— Не палічыце кампліментам, але я б хацеў адзначыць даволі высокі ўзровень дыскусіі пра рэферэндум, якую вядзе цяпер «Звязда». У нас неяк усталяваўся і зрабіўся нормай абмен усялякага роду абвінавачваннямі, нават абразамі, пасля якіх пазіраеш на апанента з лютай нянавісцю. Гэта, дарэчы, тычыцца не толькі газетнай палемікі — самакрытычна павінен прызнаць, што і парламентарыі гэтым грашаць. Таму вельмі добра, што на старонках «Звязды» ідзе спрэчка менавіта аргументаў, доказаў — газета, здаецца, апраўдвае заяўленае калісьці імкненне зрабіцца газетай беларускай інтэлігенцыі. Між іншым, і дзяржаўным дзеячам, і палітыкам (як «правым», так і «левым») трэба навучыцца спакойна рэагаваць на крытычныя заўвагі ў свой адрас, без смяротных крыўд і абрывання рэдакцыйных тэлефонаў. На Захадзе ўвогуле журналіст лічыць абавязкам «прыперці да сценкі» палітыка пад час інтэрв'ю, — такая ўжо спецыфіка прафесіі. Таму прыкра за калег, калі пасля гадзіннай прэс-канферэнцыі Шушкевіч устае з-за стала з задаволеным выглядам — з яго павінен струменіцца пот. Як і з Пазьняка, ды і з любога іншага. Але, найперш мне здаецца, сіла ўдару — у валоданні тэмай — пад час жа прэс-канферэнцыі па выніках апошняй сустрэчы лідэраў СНД карэспандэнты шакіравалі якраз уласнымі манерамі і, выбачайце, нявыхаванасцю.

**— Сродкі масавай інфармацыі перажываюць цяпер не лепшыя часы. Ваша камісія бачыць магчымы шлях таго, як захаваць наш друк, не пазбавіўшы яго пры гэтым свабоды?**

— У лістападзе мінулага года па даручэнню апазіцыі мне давялося прадставіць канцэпцыю развіцця сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі. В. Кебіч быў азнаёмлены з ёй і, наколькі я ведаю, пагадзіўся з асноўнымі палажэннямі. Нашы погляды супалі і з меркаваннямі новага міністра інфармацыі А. Бутэвіча, і цяпер ёсць шанц здзейсніць рэформы. Калі ў двух словах пра іх галоўныя мэты, то гэта — інтэграванне Беларусі ў сусветны інфармацыйны рынак, спрыянне развіццю незалежных выданняў, тэлерадыёкампаній і агенцтваў, прыярытэтныя ўмовы для беларускага кнігавыдання. Але найперш мы павінны прыняць Закон аб свабодзе друку — і такі праект ёсць, ён распрацаваны пад кіраўніцтвам Анатоля Вярцінскага.

**— Днямі пачынаецца чарговая сесія Вярхоўнага Савета. З чым ідзе да яе парламенцкая апазіцыя?**

— Ужо стала традыцыяй, што кожная новая сесія дае нейкія спадзяванні — бо чым далей, тым складаней робіцца жыццё, і многім здаецца: ну, вось цяпер ужо дэпутаты павінны ўзяцца за розум. Але ілюзіі развейваюцца ў першыя ж гадзіны, яшчэ пад час зацвярджэння павесткі дня.

Так, апазіцыі БНФ і цяпер ёсць з чым ісці на сесію — у прыватнасці, пад кіраўніцтвам Уладзіміра Заблоцкага распрацавана канцэпцыя эканамічнай рэформы, мы мяркуем зноў вынесці некаторыя законапраекты. Але радыкальныя рэформы магчымыя толькі, па-першае, пры спрыяльным заканадаўчым рэжыме (а Вы ведаеце, якія законы прымае наш парламент) і, па-другое, калі іх будзе ажыццяўляць урад народнага даверу (не сакрэт, з каго складаецца наш урад).

Я не думаю, што Кебіч і урад пойдуць у адстаўку — за два гады Вярхоўны Савет ніколі па-сур'ёзнаму не спытаў з урада за яго дзейнасць. А нават калі б і пайшоў — гэты склад Вярхоўнага Савета ніколі не прызначыць дэмакратычных міністраў. Не той, як цяпер модна казаць, менталітэт.

Мы катастрафічна губляем час, і ў нас няма іншага выйсця, як рэферэндум і новыя выбары.

**— Але ж і рэферэндум, і датэрміновыя выбары — зусім не танная справа. Не кажучы ўжо пра патрачаны час — на гэта пойдуць вялізныя грошы.**

— Так, правядзенне рэферэндуму абыдзецца дзяржаве «ў капеечку», — калі не памыляюся, гаворка ідзе пра дзесяткі мільёнаў рублёў. Але чаму члены Прэзідыума не падлічылі, колькі каштавалі грамадству непрафесіяналізм дэпутатаў, іх, выбачайце, бязглуздыя ў шэрагу выпадкаў рашэнні? Калі б год назад аддалі людзям зямлю — сёння б прылаўкі крамаў мелі б зусім іншы выгляд. Калі б прынялі разумную сістэму падаткаабкладання — спад вытворчасці не набыў бы такія катастрафічныя тэмпы. Тут ужо лік ідзе не на мільённыя, а на мільярдныя страты. А што будзе далей? Вы перакананыя, што 11 сакавіка ў парламенцкую залу ўвойдуць людзі з кардынальна новым спосабам мыслення, што яны будуць здольныя працаваць канструктыўна? За два гады апазіцыя прапаноўвала дзесяткі заканадаўчых праектаў, і мы, здаецца, выкарыста-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**«ЗА» І «СУПРАЦЬ»**

# Куды падацца?

У 1917 годзе вырашаць такое пытанне было лягчэй. Бедныя ішлі да чырвоных, багатыя — да белых. Многія ж не ўзялі ў рукі зброю і засталіся нейтраламі. Каб нейтралаў не было, магчыма, наш лёс быў бы больш шчаслівым. Сёння ў нейкім сэнсе гісторыя паўтараецца. Яна абавязвае грамадзяніна выказацца за рэферэндум ці супраць яго. А на рэферэндуме будзе вырашацца пытанне ўлады — галоўнае пытанне любой рэвалюцыі. Такім чынам, зноў нам прыйдзецца брацца за зброю, і наша шчасце, што такой зброяй з'явіцца звычайны аловак. Аднак, за што мы выкажамся і якую ролю адыграюць нейтралы — пытанне фактычна такой жа значнасці, як і ў 1917-м.

Думаю, усім зразумела, што пры дапамозе рэферэндуму робіцца спроба звергнуць вышэйшую прадстаўнічую і выканаўчую ўладу канстытуцыйным шляхам.

Становішчам у нашай дзяржаве незадаволены ўсе, але ці абавязкова менавіта сёння мяняць уладу? БНФ і шэраг партый выказаліся адназначна за рэферэндум, яны лічаць, што існуючы Вярхоўны Савет і ўрад праводзяць антынародную палітыку.

Старшыня Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіч—за правядзенне глыбінных рэформ існуючага Вярхоўнага Савета і ўрада, але, на жаль, Вярхоўны Савет не падтрымаў яго ў гэтым, прычым не было знойдзена інструментарыя гэтых змяненняў.

В. Ф. Кебіч — старшыня ўрада, заяўляе, што ён не баіцца страціць свой партфель, але лічыць, што новыя выбары могуць не даць вынікаў і мы трапім у патавае становішча, дзе выйгрышу ні ў кога не будзе, а ўзнікне безуладдзе — крах для ўсіх.

Прыводзіцца важкі аргумент. Ужо гады два ў Мінску не могуць выбраць некалькі дэпутатаў у Вярхоўны Савет. Тое, што сённяшнія выбаршчыкі не жадаюць галасаваць, характэрна не толькі для сталіцы.

16 лютага адбыліся выбары дэпутата ў Капыльскі гарадскі Савет. Заўсёды прымала ўдзел звыш 90 працэнтаў выбаршчыкаў, а цяпер — толькі 64. Тут ёсць над чым падумаць. І ўсё ж, якую пазіцыю заняць нам, куды, як гавораць, падацца, каб калі не нам, дык хоць бы нашым дзецям зажылося па-людску.

Я асабіста паважаю многіх лідэраў БНФ, згодзен з большасцю пунктаў іх праграмы, упэўнены, што існуючыя прадстаўнічыя і выканаўчыя ўлады зжылі сябе і патрабуецца іх неадкладная рэформа. Аднак насцярожвае, што ў гэтым руху ствараецца культ адной асобы, а ад любых культаў — мы ўжо гэта добра ведаем — прыходзіць вялікая бяда.

Разам з тым я лічу, што самым аўтарытэтным кіраўніком у сучаснай Беларусі з'яўляецца С. С. Шушкевіч, і ён сваёй пасадай у значнай меры абавязаны апазіцыі БНФ, больш таго, яго памяркоўная палітыка выклікае павагу не толькі грамадзян Беларусі, але і ў СНД, і ва ўсім свеце. Бадай, такая палітыка сёння для Беларусі найбольш абгрунтаваная, але хацелася б, каб памяркоўнасць С. С. Шушкевіча не прывяла да пакорлівасці.

Напрыклад, яго выказванне, што ён зробіць усё магчымае, каб пазбегнуць увядзення ўласнай валюты, прыводзіць да думкі — ці не з'яўляецца гэта вынікам знешняга націску. Сёння многія зразумелі, што без уласных грошай гаворка пра незалежнасць — блеф. У наш маленькі гарадок, я ведаю, з Украіны прыехалі тры чалавекі да сваякоў, толькі з адной мэтай — выкарыстаць прывезеныя «драўляныя» рублі.

А колькі іх пранікае ў Беларусь з усіх напрамкаў? Наша ўлада павінна ўмець вынікова абараняць інтарэсы свайго народа. Трэба прызнаць, што сёння яна гэта робіць вельмі дрэнна, баязліва, з агляд каю. Напрыклад, купоны трэба было ўводзіць паўтара года назад, а цяпер — толькі шматразовыя ці наогул уласныя грошы. Далей, няма ніякай абароны простага працаўніка, сённяшняя прыватызацыя — звычайнае рабаўніцтва нацыянальнага багацця і асабістай уласнасці народа.

У якім лесе маланкова выгадаваліся мільянеры і чаму большасць народа стала бяднейшай у 10—15 разоў? Вывад. Іх сродкі, у тым ліку з дапамогай урада, незаконна перайшлі ў рукі драпежнікаў. Безумоўна, з такім урадам нам не па дарозе.

Аднак у той час, калі мы будзем праводзіць рэферэндум, затым выбары, а ўлады будуць бяздзейнічаць у чаканні адстаўкі, намечаныя сувязі з іншымі краінамі свету аслабнуць ці наогул парвуцца, узмацнее анархія, пачнецца яшчэ большы спад вытворчасці, што непазбежна прывядзе да выбуху, у выніку якога мы зноў трапім у кіпцюры жалезнай дыктатуры. Дзе ж для нас выйсце?

Яно, думаю, у тым, каб разумна спалучыць ідэі двух галоўных напрамкаў у сённяшняй палітыцы і пазбегнуць той канфрантацыі, якая непазбежна ўзнікне ў час рэферэндуму, дабіцца адзінства народа і яго палітычнай актыўнасці.

На першы погляд, гэта немагчыма. Але толькі на першы. Выканаць патрабаванне БНФ аб змене Вярхоўнага Савета і ўрада можна іншым шляхам. У экстрэмальныя ж моманты Вярхоўны Савет працуе нядрэнна. Трэба хутка прыняць Канстытуцыю і Закон аб выбарах на многапартыйнай аснове. Адразу правесці выбары народнага Сойму (500—600 чалавек), які са свайго складу зможа выбраць 150—160 чалавек у прафесіянальны Вярхоўны Савет, які будзе паступова мяняцца: адны будуць вылучацца, другія страчваць давер.

Вядома, што існуючы Вярхоўны Савет і яго старшыня набылі значны парламенцкі вопыт і добра было б яго выкарыстаць. Зрабіць гэта складана, але можна. На першы раз, каб пазбегнуць непатрэбнай барацьбы і ўлічваючы, што тэрмін сённяшняга Вярхоўнага Савета не вычарпаны, усе яго члены павінны стаць без выбараў дэпутатамі народнага Сойму. Безумоўна, самыя аўтарытэтныя і спрактыкаваныя будуць абраны народным Соймам у састаў Вярхоўнага Савета, які канстытуцыйным шляхам правядзе рэфармаванне ўрада.

Такім чынам, змогуць быць выкананымі патрабаванні многіх плыняў дэмакратычным шляхам без нагнятання міжусобіц, непатрэбнага абвастрэння барацьбы і на аснове аб'яднання народа. Пажадана, каб кожны грамадзянін Беларусі ўсвядоміў, што ад яго пазіцыі залежыць яго асабісты лёс і лёс яго Радзімы і не ўхіляўся ад грамадзянскага абавязку.

**В. БАГДАНОВІЧ,**
**старшыня Капыльскага гарадскога Савета.**

**РЭФЕРЭНДУМ:**

